# Тыднёвік Магілёўскі




№ 16 (131) 19 – 25 кастрычніка 2001 г. Кошт 80 руб.

## ... Нешта павінна адбыцца






Фота IREX

*Напрыканцы мінулага тыдня бульдазэрыст паваліў два крыжы, усталяваныя ва ўрочышчы прадстаўнікамі Грамадзкай ініцыятывы ў абарону Курапатаў. Раней рабочыя абяцалі не кранаць Крыжоў. Калі хлопцы з патрыятычных беларускіх арганізацыяў, што дзяжураць ва ўрочышчы, падыйшлі да бульдазэрыста, то ўбачылі, што той ледзь сядзіць у кабіне машыны, бо моцна п'яны. За бульдазэрыста ўступіўся начальнік участку, які заявіў, што загаду на спыненьне працы ў Курапатах не атрымліваў. А хутка непадалёк ад месца здарэньня спынілася белая "Аўдзі" з* ***магілёўскім нумарам 1001 ТР****. Чалавек начальніцкага выгляду, які выйшаў з машыны, выказаўся ў тым сэньсе, што абаронцы Курапатаў ня маюць права кантраляваць* ***падначаленых яму рабочых****. Але калі прысутны падчас гаворкі журналіст спрабаваў высьветліць асобу і пасаду госьця з "Аўдзі", той сказаў, што апынуўся тут выпадкова і хуценька зьехаў. (Не ўдалося высьветліць уладара гэтай машыны і нам, мясцовым журналістам. Такія зьвесткі ДАІ трымае ў сакрэце – "ТМ").*

*На гэтым тыдні раскопкі ў Курапатах спыніліся. Ноччу ва ўрочышчы былі заўважаныя нейкія цывільныя людзі, што хадзілі па месцах раскопак, а непадалёк ад іх трымаліся міліцыянты. Курапаты наведаў высокі менскі міліцэйскі начальнік у якасьці рэакцыі на ліст міністру ўнутраных справаў зь Міністэрства транспарту, у якім будаўнікі дарогі скардзяцца на перашкоды з боку абаронцаў могілак. На 10 сутак арышту за арганізацыю пікету супраць продажы МАЗу расейскаму інвэстару асуджаны Павал Севярынец, адзін з кіраўнікоў кругласутачных дзяжурстваў, што наладжваюцца ў Курапатах патрыятычна настроенай моладзю. Папапталіся тут, як вядома, некаторыя з дэпутатаў "палаты". Словы пра цывілізаванае рашэньне Курапацкай праблемы ("бяз гвалту і спэкуляцый") вымавіў Лукашэнка. Літаральна пазаўчора ва ўрочышчы прайшоў гарачы мітынг жыхароў прылеглага мікраraёну, якія таксама супраць (хаця й па сваіх пабытовых прычынах) пракладкі тут кальцавой дарогі...*

*Па ўсяму адчуваецца, што нешта павінна здарыцца, нейкае рашэньне мусіць быць прынятае як з боку ўладаў, так і з боку абаронцаў Курапатаў.*

***Паводле інф. агенцыяў***

***(Працяг тэмы на 3-й стар.)***

## Не дае спакою "Вольны горад"

***У Крычаве актывізавалася сьледзтва па крымінальнай справе, узбуджанай у дачыненьні да журналістаў незарэгістраванай газэты "Вольны горад" падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.***

Справа на журналістаў Вадзіма Сьцефаненку, Сяргея Няроўнага й Мікалая Маторанку была заведзеная яшчэ ў ліпені. Яны падазраюцца ў незаконным пазбаўленьні свабоды (артыкул 183 п.1 КК РБ) супрацоўніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю, лейтэнанта міліцыі Рыбчынскага. "ТМ" апэратыўна паведамляў пра той выпадак. Але зараз распавядзем пра яго больш падрабязна.

12-га ліпеня нейкі чалавек у цывільным (а гэта й быў міліцыянт Рыбчынскі) хітрасьцю ўварваўся ў кватэру, арэндаваную "Вольным горадам", якая на той момант адначасова была мясцовым выбарчым штабам Сямёна Домаша. Чалавек не рэагаваў на спробы журналістаў высьветліць ягоную асобу і мэту пранікненьня ў офіс. Разгубленыя гаспадары патэлефанавалі тады крычаўскаму міжрайпракурору й папрасілі ў яго дапамогі. Той параіў ім тэлефанаваць па нумары 02, што і было зроблена. Дарэчы, супрацоўнікі мясцовага РАУС да таго часу тройчы канфіскоўвалі наклады "Вольнага гораду" й літаральна за некалькі дзён да інцыдэнту спрабавалі ўзламаць дзьверы рэдакцыі з дапамогаю манціроўкі. Пры гэтым яны спасылаліся на тое, што ім трэба зрабіць агляд рэдакцыйнай аргтэхнікі.

Калі міліцыянты прыехалі на выклік журналістаў, няпрошаны госьць прадставіўся і заявіў калегам, што зьяўляецца ахвярай: маўляў, яго гвалтам утрымліваюць у офісе, да таго ж пагражаюць расправай, і што наогул у яго сардэчны прыступ. Замест выкліку "хуткай" калегі абарвалі тэлефонныя драты ў пад'езьдзе дома, тым самым спыніўшы размову журналістаў са сьледчым пракуратуры Яўгенам Вераб'ёвым.

Далей журналістаў схапілі, нават не дазволіўшы надзець абутку, і даставілі ў камеру папярэдняга зьняволеньня. У гэты час Рыбчынскі з таварышамі выносіў з офісу друкаваныя матэрыялы, кампутарную і бытавую тэхніку (забыўшыся, як падалося, на сардэчны прыступ).

Праз тры дні зьняволеных выпусьцілі, папярэдне завёўшы крымінальную справу, якой спачатку займаўся інспэктар дазнаньня капітан Зайцаў, а пасьля візыту ў Крычаў кіраўніка абласнога УУС Івана Сяргея – сьледчы пракуратуры Яўген Вераб'ёў, той самы, у якога журналісты па тэлефоне прасілі дапамогі.

Потым справа была замарожаная аж да таго дня, калі сталася вядома, што Лукашэнка застаўся на пасадзе прэзыдэнта. Як сёньня сьведчаць падазраваныя, зараз у дачыненьні да іх праваахоўныя органы паводзяць сябе выразна агрэсыўна. Па словах Мікалая Маторанкі, сьледчы параіў яму "сушыць сухары". Артыкул 183 п.1 КК РБ, дарэчы, прадугледжвае ад 2-х да 5-ці гадоў пазбаўленьня волі...

***Андрэй КУЗЬМІН***



## Волю не заб'еш

Наш суайчыньнік з Бостану Язэп Пацэвіч сказаў, што сёлетні верасень прынес трагедыю як народу Беларусі, так і народу Злучаных Штатаў. У Беларусі рэжым Лукашэнкі пераабраў сябе на яшчэ адзін тэрмін кіраваньня, а тэрарыстычныя акты ў ЗША забралі тысячы жыцьцяў. Для беларусаў Злучаных Штатаў гэтыя падзеі ёсьць падвойным ударам, які абвастрыў іхныя патрыятычныя пачуцьці да абедзьвюх краінаў.

Прадстаўнік паваеннай эміграцыі ў ЗША Вячка Станкевіч кажа: "Улада, стабільнасьць у Амэрыцы зьвязваюцца зь людзьмі. Асабліва з тымі, якія тут жывуць ужо дзясяткі пакаленьняў. Самыя новыя прыезжыя – пасьля другой сусьветнай вайны, яны яшчэ пачуваюцца эмігрантамі. Наконт куска зямлі – "роднага кута", як мы кажам, дзе продкі жылі – такога пачуцьця ў амэрыканцаў амаль што няма, бо яны даволі мабільны народ і лёгка пераязджаюць з аднаго канца Амэрыкі ў другі. Я сказаў бы, што асновай амэрыканскага патрыятызму ёсьць пачуцьцё чалавечай свабоды. Усе мы лічым, што чалавек мае магчымасьць вельмі свабодна жыць. І таму амэрыканцы бываюць вельмі зьдзіўленыя, калі даведваюцца аб тым, што іх нехта ненавідзіць".

Вера Запруднік, дачка вядомага беларускага дзеяча ў ЗША Янкі Запрудніка, належыць да таго пакаленьня эміграцыі, якое ўжо вырасла там. Яна кіруе Задзіночаньнем Беларуска-амэрыканскай моладзі. "Мы тут вольныя, – кажа Вера. – Мы ўжо ня ведаем, як бяз гэтай вольнасьці жыць. Цяпер мы яшчэ больш шануем нашую волю, бо бачым, што тэрарысты хочуць яе ад нас забраць. Але, калі яны думаюць, што гэты выпадак нас разаб'е, то памыляюцца. Цяпер мы будзем за сваю волю біцца".

Увогуле, беларускі патрыятызм у Амэрыцы лёгка ўжываецца з амэрыканскім, бо ў нашых народаў агульныя маральныя каштоўнасьці. Гэтыя каштоўнасьці адлюстраваныя ў нашых гімнах, якія па зьмесьце вельмі падобныя – "Божа, дабраслаў Амэрыку" і "Магутны Божа".

***Ганна СУРМАЧ***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**На Магілёўскім аўтарынку мясцовыя гандляры правялі двухдзённы папераджальны страйк. Нічога дзіўнага тут няма. Чарговым разам прадпрымальнікі мусілі нагадаць уладам, што немагчыма працаваць, калі цябе бясконца кантралююць. На працягу тыдня на аўтарынак наведваліся прадстаўнікі 5-ці (!) кантралюючых установаў. І усе яны штосьці знаходзілі, бо не парушыць цяперашні частакол забаронаў папросту немагчыма. Падчас праверак кожны кантралёр выклікаў гандляроў на прыём у кабінэт. І атрымалася так, што некаторых адначасна выклікалі ў некалькі кабінэтаў... Аўтагандляры здагадаліся, што пасьля выбараў іх ніхто не ўратуе, калі яны самі не дадуць сабе рады. Яны запрапанавалі кантрольным службам стварыць нейкую ўзгодненую форму стасункаў з прадпрымальнікамі, папярэдзіўшы, што ў выпадку адмовы арганізуюць у лістападзе больш працяглы страйк.**

**Паводле афіцыйнай статыстыкі, з пачатку года абласны бюджэт не дабраў амаль 20 мільярдаў рублёў. Варта нагадаць, што адна запазычанасьць па заробках складае ці не палову названай сумы. Цікава пры гэтым супаставіць зь бюджэтнай запазычанасьцю рост вытворчасьці, які з пачатку года склаў прыкладна 102%. Ці ж не таму ён і расьце? Кіраўнік улады ў краіне, вядома, "даў устаноўку" павялічыць вытворчасьць. Але ва ўмовах нашай эканамічнай палітыкі дасягненьне падобнай мэты абарочваецца толькі тым, што ўсе мы не атрымліваем заробленага. Ды каб толькі гэтая бяда...**

**На сэсіі абласнога Савету было абвешчана, што чаканыя падатковыя паступленьні ў бюджэт на наступны год складуць каля 660 мільярдаў рублёў. А ўсе патрэбы ў дзяржаўных грошах дасягаюць амаль 900 мільярдаў. Відавочна, што бюджэт, як тая шагрэневая скура, з кожным годам зьмяншаецца. Сродкаў не хапае... У гэтых абставінах урад абвесьціў пра падтрымку "экспэрымэнту" у шэрагу раёнаў Магілёўшчыны. Паводле ягоных умоваў, раёны могуць пакідаць сабе падаткі на даданую вартасьць, на прыбытак і частку акцызных плацяжоў. Вядома, што гэтыя грошы раней не заўсёды вярталіся з цэнтру ў рэгіёны. Аднак прагрэсіўнае рашэньне ўраду могуць сапсаваць некаторыя дэталі. Усе названыя падаткі знаходзяцца ў простай залежнасьці ад таго, колькі прададзена прадукцыі. Улічваючы, што аб'ём яе рэалізацыі магілёўскімі прадпрыемствамі стабільна зьніжаецца, а запасы на складах растуць, можна не чакаць на паляпшэньне фінансавай сытуацыі.**

**Пад пагрозай закрыцьця апынулася ў горадзе кухня дзіцячага малочнага харчаваньня. Гэта ўжо далёка не першая падобная пагроза. У мінулыя гады розныя структуры неаднойчы намагаліся закрыць кухню: увесь час там чагосьці не хапала. Не было належнага абсталяваньня, санітарных умоваў і г.д. Зразумела, што немагчыма дапусьціць, каб дзеці "частаваліся" патэнцыйна сапсаваным прадуктам. Але, зь іншага боку, у вобласьці больш ніхто не вырабляе прадукцыю, безь якой многія маці (а значыць, і дзеці) ня могуць абыйсьціся. Гэтым разам кухня не мае рэактываў, каб ажыцьцяўляць кантроль за вырабленымі прадуктамі. Працяглы час дапамагалі вырашыць гэтую праблему піўны завод і малочны камбінат, і ў выніку на сёньня кухня захавалася ім 200 тыс. рублёў. Грошы, праўду кажучы, не такія вялікія для бюджэту. Вось толькі каб зь бюджэту накіроўваліся грошы на сапраўды вартыя рэчы!**

**Па-ранейшаму нашы будаўнікі ня маюць на радзіме працы. Вось і зноў, каб легальна зарабіць, як паведамляецца, па 250 і вышэй даляраў за месяц, больш за тысячу магілёўскіх рабочых паедуць у Маскву. Абяцаюць ім нават часовую прапіску й жытло. Не заўсёды, аднак, паездкі на заробкі ў Расею сканчаюцца добра. Аднак сумны факт застаецца: насуперак афіцыйным сьцьверджаньням пра рост вытворчасьці ці нават пра нейкі беларускі "эканамічны цуд", грошай у краіне ўсё меней. У выніку гібее будаўнічая вытворчая база й няўхільна падае прафэсійнасьць кадраў. У падобных умовах любы замежны кантракт – гэта ратаваньне для рабочых. Вось толькі айчынную эканоміку тым не ўратуеш...**

**Былы намесьнік старшыні аблвыканкаму Аляксандар Селязьнёў зьехаў у Менск на пасаду кіраўніка апарату Савета міністраў, – ледзь не на другую пасаду ва ўрадзе. Чым жа заслужыў павышэньне А.Селязьнёў? У аблвыканкаме ён працаваў з 1998-га, адказваў за будаўнічую сфэру. Сказаць, што ў ёй пад ягоным кіраўніцтвам адбылося нешта незвычайна пасьпяховае, нельга. Але трэба ўзгадаць, што сп.Селязьнёў атрымаў грамату ўраду за добрую працу па падрыхтоўцы Шклова да Дажынак. Пры ім і лядовы палац узьвялі. Ёсьць за што і ў Менск перабірацца...**

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Вырок спэцыялістаў: нерэальна!

***Новы ўрад РБ прагназуе ў наступным годзе 7% эканамічнага росту, 20% інфляцыі, а таксама падвышэньне сярэдняга заробку да 120 даляраў, зьніжэньне падаткаў і рост інвэстыцыяў.***

Незалежныя эканамісты лічаць, аднак, што заплянаваныя паказчыкі – нерэальныя. Найперш таму, што ў эканоміцы ня створаныя ўмовы для эканамічнага росту на здаровай аснове. Напрыклад, калі ўрад хоча зьменшыць інфляцыю да 1-2% на месяц, то ён павінен паменшыць крэдытную эмісію. У гэтай сытуацыі ўзьнікне пытаньне – коштам чаго будзе дасягнуты рэальны эканамічны рост? Калі сёлета колькасьць стратных прадпрыемстваў у краіне павялічылася ўдвая пры нязначна больш жорсткай крэдытна-грашовай палітыцы, то ў наступным годзе яна павінна патроіцца...

Таксама выклікае сумненьні выхад на прагназаваны рост сукупнага ўнутранага прадукту і станоўчы гандлёвы балянс. Прычына – неканкурэнтаздольнасьць беларускіх тавараў на расейскім рынку. У такіх умовах утрымаць бюджэт ня ўдасца, і ўрад вымушаны будзе пайсьці на грашовую эмісію. У выніку ня будзе вытрыманы і паказчык інфляцыі.

Незалежныя эканамісты лічаць таксама, што заробак у 120 даляраў – утопія. Пра гэта сьведчыць запазычанасьць па заработнай плаце, якая зьявілася пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. За тыдзень яна вырасла у 15 разоў! Да новага году банкі, магчыма, яшчэ будуць даваляць прамысловым прадпрыемствам браць новыя крэдыты. Але далей папросту магчымы абвал усёй фінансавай сыстэмы краіны.

Сёлета да ўсіх бедаў эканомікі дадалося й скарачэньне экспарту беларускіх тавараў. Значная частка прадукцыі, якая ёсьць энэрга-, вытворчады фінансова ёмістай, марнуецца на складах з-за незапатрабаванасьці ў Расеі (аб іншых рынках збыту і гаворкі няма).

*Таццяна **КАЛІНОЎСКАЯ***



# У людзей "свае" праблемы

***Былы супрацоўнік КГБ Генадзь Угляніца знаходзіцца ў Нарвэгіі, – паведаміў ягоны цесьць, акадэмік Радзім Гарэцкі.***

Угляніца патэлефанаваў сваёй жонцы і сказаў, што ён у Нарвэгіі, дадаўшы яшчэ толькі тое, што ўсё запісанае на відэакасэце *(пра гэта ў P.S. – "ТМ")* – праўда. У КГБ, аднак, працягваюць афіцыйна лічыць Угляніцу дзейным супрацоўнікам. Крымінальная справа паводле ягонага зьнікненьня не спыняецца. Дакладных зьвестак пра тое, дзе зараз знаходзіцца актывіст незарэгістраванай арганізацыі "Край" Андрэй Жарнасек, няма.

Кіраўнік грамадзкай камісіі ў справе расьследаваньня зьнікненьня Ганчара і Красоўскага Алег Вочак абвергнуў зьвесткі пра датычнасьць праваабарончых арганізацыяў да ўцёкаў зь Беларусі Угляніцы і Жарнасека, аднак дадаў, што лічыць іхняе рашэньне шукаць прытулку на Захадзе цалкам зразумелым, улічваючы тую небясьпеку, у якой яны апынуліся пасьля агалошваньня вынікаў свайго незалежнага расьсьледаваньня.

*Алег **ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***

**P.S.** Варта нагадаць, што беларускі кэгэбіст Генадзь Угляніца – ня першы ўцякач за межы краіны. Двое ягоных папярэднікаў, што напачатку года таксама сьведчылі пра дачыненьне афіцыйнага Менску да зьнікненьня вядомых апазыцыянэраў, знайшлі прытулак у ЗША. У іншых заходніх краінах знаходзіцца некалькі выкрывальнікаў улады з міліцэйскага ведамства, якія вымушаныя былі зьбегчы пасьля абвінаваўчых выступаў на адрас адміністрацыі краіны. Генадзь Угляніца з Андрэем Жарнасекам сваю інфармацыю распаўсюдзілі з дапамогай відэакасэты (яна была паказаная па некаторых расейскіх тэлеканалах), у якой выклалі вынікі свайго прыватнага расьсьледаваньня зьнікненьня Ганчара і Красоўскага. Яны назвалі прозьвішча сьведкі гэтай справы (міліцэйскага службоўца), а таксама месца магчымага пахаваньня палітыка і бізнэсоўца разам з машынай на адным з вучэбных вайсковых палігонаў. Улада, нагадаем, даволі апэратыўна наладзіла выезд групы тэлежурналістаў на названае месца, аднак па гэтым адрасе нічога знойдзена не было.

Асобныя прадстаўнікі апазыцыйных арганізацыяў адпачатку лічаць выступ Угляніцы з Жарнасекам правакацыяй, якую наладзіла ўлада для сваіх мэтаў. Іншыя ім вераць.

Што да нас, то "Тыднёвік" стаіць на патрабаваньні незалежнага міжнароднага расьсьледаваньня ў справе зьнікненьня ў краіне вядомых людзей. Тады ня будзе лішнім вывучэньне паказаньняў пазначаных сьведкаў з КГБ і Міністэрства ўнутраных справаў. Тады стане вядомай іхняя сапраўдная роля альбо шчырая высакароднасьць... Пакуль, на жаль, нашаму грамадзтву гэтая тэма не баліць, а на замежныя патрабаваньні рэжым не рэагуе.

# Толькі немцы, і тое ня ўсе...

***Беларускае пытаньне ў Эўрапарляманце днямі перадалі на даразгляд. Эўрапейскія палітыкі лічаць, што павінны дакладна прааналізаваць пасьлявыбарчыя сыгналы афіцыйнага Менску.***

Цяпер у дакладзе Элізабэт Шродтэр, якая прадстаўляе ў Эўрапарляманце інтарэсы Беларусі, замест ранейшай ідэі ізаляцыі прапануецца стратэгія эўрапейска-беларускага супрацоўніцтва – тое, што апошнім часам больш-менш прасоўваюць нямецкія палітыкі й палітолягі.

Паводле шэрагу заходніх аналітыкаў, нядаўнія заявы Лукашэнкі можна назваць лібэральнымі: напрыклад, тое, што зь дзяржаўнымі датацыямі ў эканоміцы будзе пакончана, і грамадзяне самі павінны вучыцца зарабляць і выжываць. А таксама словы пра тое, што Беларусь гатовая прысьпешваць супрацоўніцтва з Эўропай, галоўным чынам зь Нямеччынай і ствараць спрыяльны клімат для інвэстыцыяў.

Між тым, тут ёсьць адна акалічнасьць. Няясна, які зьмест укладае Лукашэнка ўва ўсе гэтыя словы. Нямецкі палітоляг Райнэр Лінднэр лічыць, што Вялікая Брытанія й Францыя больш скептычна, чымсьці Нямеччына, ставяцца да падобных дэкларацыяў Лукашэнкі. "Мне здаецца, што немцы пакуль адзіныя, хто хоча пакласьці канец ізаляцыйнай палітыцы ў дачыненьні да афіцыйнага Менску. Хаця той жа наш суайчыньнік Вік пасьля беларускіх прэзыдэнцкіх выбараў мае зусім іншыя меркаваньні: ягоная пазыцыя пазыцыя больш блізкая да пазыцыі амэрыканскага, а не нямецкага амбасадара", – заявіў Р.Лінднэр.

Дарэчы, 30-га кастрычніка ў Міжнародным адукацыйным цэнтры ў Менску распачне працу традыцыйны нямецка-беларускі форум з удзелам эўрапейскіх і беларускіх палітыкаў і экспэртаў. Магчыма, што ў часе вострых дыскусіяў можна будзе ўстанавіць, ці сапраўды афіцыйны Менск мае намер ажыцьцяўляць новыя падыходы ў сваёй зьнешняй ды ўнутранай палітыцы.



*Алена **ПАНКРАТАВА***

